АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

2 – 8 ЛІПЕНЯ 1999 ГОДА
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
ЦАНА 30000 РУБЛЁЎ
№27 (219)

**Заўтра, 3 ліпеня, 55 год з дня вызвалення Беларусі ад нямецка–фашысцкіх захопнікаў. Віншуем усіх!**

СМАРГОНЬ

## Прафсаюз прадпрымальнікаў

Адбыўся ўстаноўчы сход, на якім смаргонскія прадпрымальнікі, якія гандлююць на рынку, стварылі прафсаюзную арганізацыю. У яе ўвайшло 36 чалавек. Выбраная рада арганізацыі ў складзе трох чалавек, яе старшынёй абраны прыватны юрыст Алесь Дзергачоў. На сходзе выступіў старшыня Свабоднага прафсаюза беларускага Генадзь Быкаў.

*Віктар ШОЦЬ.*

ВІЛЕЙКА

## Юбілей "Бастыліі"

Акрамя агульнагарадскога юбілею – святкавання 400–годдзя горада, магчыма, адбудзецца яшчэ адзін, значна меншы. Чакаецца заканчэнне капітальнага рамонту "Бастыліі".

10 год таму з 2–павярховага дома без выгод па вуліцы 17 верасня выселілі людзей. За гэты час да дома падвялі ваду, каналізацыю, надбудавалі трэці паверх, зрабілі перапланіроўку кватэр.

Вось толькі ці захочацца "навасёлам" вяртацца: за 10 год падменны фонд стаў як родны.

*Аддзел інфармацыі.*

СМАРГОНЬ

## "Аўрора" ў Смаргоні

У дадатак да шасці капітальных магазінаў прадуктовых і прамысловых, гаспадарчых тавараў, двух павільёнаў "беларускага бістро" і некалькіх гандлёвых кіёскаў у Смаргоні малое дзяржаўнае прадпрыемства "Ніва–ЗАС" адчыніла каля чыгуначнага вакзала новы гандлёвы павільён "Аўрора".

У ім – добры выбар кандытарскіх вырабаў, газіраваных напояў, кансерваванай прадукцыі, прысмакаў. А яшчэ тут прадаецца лідскае піва. Чэргі ў час прыходу–адыходу цягнікоў заўсёды вялікія.

У раёне чыгуначнага вакзала гандлёвых пунктаў, дзе можна было б хутка перакусіць і паспытаць пеністых напояў, не было з пачатку 70-х.

*Павел МАКЛЮК.*

МЯДЗЕЛ

## Мядзельцаў заваляць хлебам

На мясцовым хлебазаводзе замест старой хлебабулачнай печы ўстанаўліваецца новая, па магутнасці другая ў рэспубліцы. Замена абсталявання ідзе для насельніцтва бязбольна – хлеб не знік з паліц магазінаў.

*Алесь ВЫСОЦКІ.*

ВАЛОЖЫН

## Скідкі на абеды

У гарадскім рэстаране "Іслач", сталоўцы, рэстаране ў Івянцы комплексныя абеды сталі таннейшыя на 30 працэнтаў.

Звязана гэта, найперш, з прыцягненнем едакоў – даходы ўстаноў грамхарчу змяншаюцца. Плён ёсць: з 12 да 15 гадзін колькасць наведвальнікаў гэтых пунктаў грамадскага харчавання значна павялічылася.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

СМАРГОНЬ

## Яшчэ два кааператывы

Два новыя жыллёва–будаўнічыя кааператывы фарміруе райвыканком. У двух дамах на 35 і 31 кватэру змогуць засяліцца 20 чаргавікоў з гарадской чаргі, па 8 сем'яў работнікаў заводаў аптычнага станкабудавання, агрэгатнага, АП "Смаргонсілікатабетон", 8–АБМТ–41 і г. д.

У абодвух дамах будзе 17 аднапакаёвых, 24 двухпакаёвыя, 20 трохпакаёвых і 5 чатырохпакаёвых кватэр. Правы падаць заяву на ўдзел у будаўніцтве маюць: на аднапакаёвыя кватэры – хто стаяў на чарзе па 1990 год уключна, на двух – па 1991, трох – па 1987 і чатырох – па 1993 год уключна.

*Павел МАКЛЮК.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Цэнтр Маладзечна адновяць

На сесіі гарадскога Савета дэпутатаў прагучала: у наступным годзе скверык, што на Цэнтральнай плошчы, запланавана "забрукаваць" пліткай.

Пакуль жа плітка падбіраецца да плошчы пакрысе: вядуцца работы на вуліцы Прытыцкага, Валынца. Дарэчы, на добраўпарадкаванне ідуць грошы не толькі бюджэтныя. Напрыклад, на вуліцу Валынца 1 мільярд 308 мільёнаў рублёў выдаткаваў ААБ "Беларусбанк", прадпрымальнікі Сакалоўскі – 700 мільёнаў рублёў, Вайцяшонак – 1 мільярд 80 мільёнаў рублёў.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

ВЫСТАЎКІ

# Шведскі фотамастак у Маладзечне

*З 1 па 10 ліпеня ў выставачнай зале музычнага вучылішча праходзіць выстаўка мастацкай фатаграфіі мастака са Швецыі **Ларса–Ёрана Малмгвіста.***

Ларс – фатограф–прафесіянал, член мастацкай акадэміі горада Стрэнгнэса. Удзельнік многіх калектыўных і персанальных выставак, у Маладзечне работы замежнага фатографа такога ўзроўню дэманструюцца ўпершыню. Пасля паказу ў Маладзечне фотаработы паедуць у Мінск.

*Аддзел інфармацыі.*



*Шведская дзяўчынка Алёнка мае маладзечанскае паходжанне – яе мама Юлія Захарыч у свой час працавала мастаком–афарміцелем цэнтральнай гарадской бібліятэкі.*

ФОТА ЛАРСА–ЁРАНА МАЛМГВІСТА.

**Запрашаем наведаць фотавыстаўку шведскага фатографа Ларса–Ёрана Малмгвіста. 1–10 ліпеня, Маладзечанскае музычнае вучылішча.**

100 ВЫПАДКОВЫХ ТЭЛЕФАНАВАННЯЎ

Шаноўныя чытачы! Вы можаце ўзяць удзел у апытанні. Тэма наступнага: «Ваша ацэнка крымінальнай сітуацыі ў Маладзечне». **У аўторак, 6 ліпеня, тэлефануйце ад $17^{00}$ да $21^{00}$ у Маладзечна – 60026** і выказвайце свае меркаванні вядучай рубрыкі Анжэле.

ЛЕТА

# Гарадская касавіца



*Гарадскі парк Маладзечна штогод выкошвае пенсіянер Эдуард Церах.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

МАЛАДЗЕЧНА. Штолета наймаецца ён, каб касіць гарадскі парк. Летась заключаў дагавор з адміністрацыяй гарпарку, цяпер – з "Камунальнікам", бо тэрыторыя перайшла да яго. Калі ўлічваць, што да работнікаў ВА ЖКГ "Камунальнік" давядзены план – здаць дзяржаве па 300 кілаграмаў сена з кожнага, – пенсіянер Церах стаў асноўнай фігурай. На яго глядзіць з надзеяй чалавек 100 калектыву.

Церах нарадзіўся ў Аўсяніках на Вілейшчыне. Косіць з 12 год. І пазней, калі ў горад пераехаў, касу з рук не выпускаў – прыватны дом, гаспадарка. У горадзе 30 год да пенсіі і 6 пасля адпрацаваў на заводзе "Спадарожнік" слесарам механа–зборачных работ, наладчыкам.

Працаваць касец пачынае а 5–й гадзіне раніцы. Пад абед ідзе дамоў. Увечары – зноў кліча парк. За дзень выкошвае сотак пад 30. Год таму – усе 50. Работу аплачвалі па–іншым, ад зробленага. Самая добрая трава, на яго думку, расце пад дарогу (Вялікі Гасцінец). А найбольш цяжка касіць у цэнтры парка, паміж дрэў.

Прачэсваючы тэрыторыю, Эдуард Церах нейкіх каштоўных рэчаў не знаходзіў, а вось смецця пад касой дастаткова. За сезон трэба абысці 47 гектараў, але пенсіянер такую работу любіць. І грошы заробіш, і справу патрэбную зробіш. Трава на корм забярэ нейкі калгас. Частка пойдзе на корм свайму штатнаму работніку – каню зелянгаса.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

ФЕСТЫВАЛЬ

# "Адна зямля"

Гэтыя словы з тытула нашай газеты сталі назвай рэгіянальнага фестывалю–конкурсу выканаўцаў эстраднай песні, які пройдзе сёлета 10 ліпеня (субота) на стадыёне пасёлка Чысць у Маладзечанскім раёне. Заснавальнікамі гэтага штогадовага свята сталі аддзелы культуры Маладзечанскага, Валожынскага і Ашмянскага райвыканкомаў, "Рэгіянальная газета".

У фестывалі прымуць удзел выканаўцы песні дзвюх узроставых груп: ад 15 да 21 года і ад 21 да 30 год.

Сёння сярод арганізатараў фестывалю ёсць загадчыкі аддзелаў культуры раёнаў–арганізатараў Аляксандр Рамановіч, Сяргей Шаблыка, Галіна Балінская, загадчык аддзела па рабоце з моладдзю Маладзечанскага райвыканкома Анатоль Арловіч, дырэктар Маладзечанскага раённага метадычнага цэнтра Святлана Пабута, старшыня Чысцінскага сельсавета Міхаіл Полушкін, дырэктар вытворчага прадпрыемства жыллёва–камунальнай гаспадаркі ў Чысці Віктар Грынчук.

Маецца на ўвазе, што ў перспектыве ў фестывалі будуць удзельнічаць маладыя спевакі і з Астравецкага, Вілейскага, Мядзельскага, Смаргонскага і Пастаўскага раёнаў. Фестываль, які пачнецца 10 ліпеня ў 15.00 павінен даць добры старт творчай моладзі, якую яднае адна зямля – зямля наша, нашых бацькоў і дзядоў.

Праграму фестывалю «Рэгіянальная газета» апублікуе напярэдадні свята – 9 ліпеня.

***Арганізатары фестывалю будуць удзячныя арганізацыям, прадпрыемствам, жыхарам нашага рэгіёна за дапамогу ў правядзенні гэтага мерапрыемства. Тэлефоны для даведак у Маладзечне 71967, Валожыне 55834, Ашмянах 22776.***

СТАРЫ АЛЬБОМ

Вілейка, плошча Свабоды (раней Георгіеўская) – гістарычны цэнтр горада, такой яна была яшчэ ў пачатку 50–х гг. нашага стагоддзя. У 1895 г. да 100–годдзя, як Вілейка стала павятовым горадам, у цэнтры плошчы на дабравольныя ахвяраванні віляйчан быў пабудаваны каменны помнік (на месцы першай святыні горада – уніяцкай царквы) – высокая чатырохгранная калона, пафарбаваная ў шэра–блакітны колер, у верхніх нішах калоны чатыры іконы: Маці Боскай, Збавіцеля, Георгія Перамаганосца і мучаніцы Кацярыны. Помнік гэты ўрачыста, з хрэсным ходам, быў асвечаны 8–га верасня 1895 года. 2 ліпеня 1944 года на гэтай плошчы (амаль побач з калонай) быў урачыста пахаваны Г. Я. Гарбузаў, гвардыі маёр, камандзір 3–га мотастралковага батальёна 7–й гв. механізаванай брыгады 3ГСМК (Гвардзейскі Сталінградскі Механізаваны Корпус), ураджэнец Калінінскай вобласці, які загінуў пры вызваленні Вілейкі. За стагоддзі існавання плошча мяняла назву, выгляд, але гістарычную форму трохкутніка захавала да нашых дзён. Замест калоны сёння тут скульптурны помнік землякам і 119 прозвішчаў, высечаных на гранітных плітах, віляйчан, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.



ФОТАЗДЫМАК З ФОНДАЎ ВІЛЕЙСКАГА ГІСТОРЫКА–КРАЯЗНАЎЧАГА МУЗЕЯ.

*Вольга КОЛАСАВА, старшы навуковы супрацоўнік Вілейскага гісторыка–краязнаўчага музея.*

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) | |
|---|---|---|---|
| | | 23.06 | 30.06 |
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 505 | – |
| Кілбаса с/в | 1 кг | – | – |
| Сасіскі | 1 кг | 505 | **508** |
| Селядзец салёны | 1 кг | 330 | **330** |
| Рыс | 1 кг | 200 | **200** |
| Цукар | 1 кг | 135 | **145** |
| Грэчка | 1 кг | 250 | **230** |
| Алей | 1 л | 370 | **375** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 138 | **150** |
| Маянэз | 250 г | 70 | **70** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 450 | **450** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 120 | **125** |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 120 | **120** |
| Лімоны | 1кг | 470 | **495** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 220 | **200** |
| Масла | 1 кг | 450 | **500** |
| Тварог | 1 кг | 200 | **140** |
| Малако | 1,5 л | 60 | **60** |
| Бульба маладая | 1 кг | – | **200** |
| Яйкі курыныя | 1дзес. | 180 | **180** |

*Адсутнасць курыных кумпячкоў гандляры тлумачаць спякотай.*

## На рынку з"явіліся ягады...

парэчкі чорныя ............... 5л ............... 1200 тыс. руб.
парэчкі чырвоныя ............ 5л 400
клубніцы ........................ 5л 1500
суніцы ........................... 5л 2000
вішня ............................. 5л 1500
маліна ............................ 5л 1500
агрэст ............................. 5л 800

## ...і іншыя падарункі саду і агарода

морква ........................ пучок 40-100
агуркі ........................... 1 кг 140
памідоры ....................... 1 кг 370

*Падрыхтавала Юлія ВАНСЛАЎ.*

ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 90 ГОД ТАМУ

# Ля Маладзечна зляцеў з рэйкаў поезд

**Ст. Маладэчно.**

Памеж железнадарожнымі станцыямі Молодэчно і Палачаны на Балагое–Волковыскай ж. д. товарны поезд зляцеў з рэльсоў; на смерць забіты: тормазны кандуктар Іван Словеневскій, памошнік машыніста Карл Нікіфоров; цяжка зранены: старшы кондуктар Эдуард Знішчэнскі і памошнік машыніста Констанцін Нагат.

**М. Буцлаў, Віленскай губ. Вілейскага пав.**

Тутэйшы старшыня, быўшы крыху лыкнуўшы, прычапіўся да Франука Шоломскага, што ходзіць з крамкай і мае пазваленьне ад губэрнатара. Старшыня, відаць, хацеў што выціснуць з беднаго хлапца, паглуміў яму твар, ды ешчэ зазваў вурадніка, каб арэштаваць крамніка, але вураднік не знайшоў ніякой прычыны да арэшту. Німа стыду ў некаторых людзей крыўдзіць бедака–хлопца.

Шышэчка.

Здаўна ў нас у мястэчку Красным Віленскай губ. Вілейскага пав. кожны год спраўляюць 23 юня вечэром стародаўнюю "Купалу".

Вось у гэтым гаду так жэ сама а гадзіне дзесятай то на аднэй гарэ, то на другой відаць былі агні і чуваць песьні. Як раз у гэты самы дзень у вучыцеля народнай школы мястэчка Красное Гайкі сабраліся госьці. Ужо яны як пачулі, што каля агню пяюць, пайшлі да бліжэйшага агню, прылучыліся да дзеўчат і хлапцоў і пачалі разам гуляць харawоды.

Як даведаўся аб гэтым гуляньні Красносельскі вураднік, так і прыляцеў туды з двума стражнікамі і давай пытацца: "а пазваленне ад начальства на гэта гуляньне маеце?" Як атказалі, што нема, дык ён зараз прыказаў расхадзіцца, бо гэта, кажэ, незаконная сходка, а як яму пачалі гаварыць, што тут нічога незаконнага няма, дык ён запытаўшыся некалькіх імя і прозвішча, паглядзеўшы паперы Ковенскіх вучыцелёў, сказаў: "можэце гуляць, але пры вас будуць стаяць стражнікі; сам жэ пашоў на станцію, пазваў жандара і даў аб гэтым тэлеграму прыставу ў Молодэчну, адтуль зараз жа пріехалі ешчэ два жандары і ўсе яны ў четырох схаваўшыся ў кустах, глядзелі, што там рабілася, а пасьля як усе разышліся, ураднік напісаў пратакол такі несправядлівы, што ня дай Бог. Напрыклад вучыцеля Гайкі не было на гэтым гуляньні, бо ён застаўся з дзяцьмі дома, а вураднік напісаў, што быў; ізноў жэ я быў, а мяне не запісаў.

Што выйдзе з гэтаго протакола, ешчэ не вядома; прыстав прыехаўшы на заўтра сказаў, што пойдзе на "прэкрашчэнне" да пракурора, бо нічога незаконнага не было.

Не вучыцель.

**М. Лебедзево Віленскай губ. Вілейскаго пав.**

У маёнтку Устроні, каторы купілі недаўна селяне Божко і Леган, нехта падпаліў тры хлявы, у каторых згарэла 140 авечак, узятых на пашу.

Цыпрук.

**З. Скрыня Віленскай губ. Вілейскаго пав.**

У тутэйшых аколіцах пачаліся зладзействы. Злыдні неякіе небракуюць нічым: ні конём, ні каровай, ні салам – усё падбіраюць. Людзі маюць падазрэньне на адну сямью, што выйшла недаўна з турмы.

**Фольварак Дворышчэ Вілейскага пав. Віленскай губ.**

Недаўна згарэў тут млынок, каторы арэндаваў хрысьцянін. Кажуць нехта падпаліў. Відаць некаму была карысць ад падпалу.

Пераездны.

*Першая Беларуская Газэта з рысункамі "Наша Ніва". №27 ад 2 ліпня 1909 г.*

ПРАВЕРКІ

# Паплаціўся пасадай

СМАРГОНЬ. Двойчы вымушаныя былі спецыялісты Камітэта дзяржаўнага кантролю па Гродзенскай вобласці звяртацца да работы Смаргонскай птушкафабрыкі. Першы раз яны ўстанавілі факты безгаспадарчасці і выдалі прадпісанні па іх ухіленні, пакараўшы вінаватых.

Нічога па ліквідацыі безгаспадарчасці не было зроблена. Наадварот, падзеж птушкі павялічыўся. Устаноўленыя і іншыя факты безадказных адносін да работы. Прадпрыемства аштрафавана на 302 мільёны рублёў, а дырэктар **С. Кошаль** і галоўны бухгалтар **Ю. Мароз** на 15 мільёнаў рублёў.

Райвыканком разам з кіраўніцтвам рэспубліканскага аб'яднання "Белптушкапрам" вызвалілі ад займаемай пасады дырэктара фабрыкі С. Кошаля. Новым кіраўніком прызначаная **Галіна Андрэева**, якая працавала раней галоўным заатэхнікам Скідальскай бройлернай фабрыкі.

*Павел МАКЛЮК.*

ЦЭНЫ

# Цэны і гандлёвыя надбаўкі

*МАЛАДЗЕЧНА. Людзі заўсёды цікавяцца, чаму растуць цэны. Пра адну з прычын пойдзе гаворка ў цыкле матэрыялаў, у тым ліку, і па выніках праверак, загадчыцы сектара аддзела цэнаўтварэння Мінаблвыканкома Валянціна ПАХОМЧЫК.*

## Крыху пра механізм цэнаўтварэння

Сёння ў вытворчых аб'яднанняў і прадпрыемстваў ёсць магчымасць самастойна ўстанаўліваць адпускныя цэны на выпускаемую прадукцыю. Абгрунтаванне цаны ўяўляе сабой дастаткова складаны і працаёмкі працэс, які ўключае аналіз попыту і ўзроўню канкурэнцыі на рынку пэўнага тавару, падлік выдаткаў, аналіз цэн канкурэнтаў, выбар прымальных метадаў і стратэгій цэнаўтварэння.

Міністэрствам эканомікі распрацавана і зацверджана палажэнне аб парадку фарміравання і прымянення цэн і тарыфаў, якое ўведзена ў дзеянне з 1 мая.

19 мая ўступіў у сілу Закон РБ аб цэнаўтварэнні. Ён устанаўлівае прававыя асновы дзяржаўнай палітыкі ў вобласці цэнаўтварэння ў краіне, сферу прымянення свабоднага і рэгулюемага цэнаўтварэння, паўнамоцтвы дзяржаўных органаў, якія здзяйсняюць рэгуляванне цэнаўтварэння і кантроль за ім, правы, абавязкі і адказнасць суб'ектаў цэнаўтварэння.

Крыху раней, 10 лютага, прынятая пастанова Савета Міністраў "Аб некаторых мерах па ўзмацненні кантролю за захаваннем дысцыпліны цэнаў", дзе вызначана, што адсутнасць эканамічных разлікаў, якія пацвярджаюць узровень прымяняемых цэнаў (тарыфаў), разглядаецца, як парушэнне дысцыпліны цэнаў, і да суб'ектаў гаспадарання органамі кантролю за захаваннем дысцыпліны цэнаў прымяняюцца ва ўстаноўленым парадку штрафныя санкцыі ў памеры да 10% ад кошту рэалізаванай прадукцыі (тавараў, работ, паслуг).

11 мая Мінаблвыканкомам было прынятае таксама распараджэнне, якім устаноўлены прагноз змянення цэнаў для абласнога дзяржаўнага вытворча–гандлёвага аб'яднання "Прамысловасць" на II квартал – 12%, для суб'ектаў гаспадарання, якія не ўваходзяць у сістэму ведамаснага падпарадкавання, у красавіку–чэрвені раўнамерна, не больш чым на 2% у месяц. Гэтым распараджэннем устаноўленыя меры эканамічнай і адмінстрацыйнай адказнасці, якія прымяняюцца органамі кантролю за захаваннем дысцыпліны цэнаў. У мэтах папярэджання неабгрунтаванага росту цэнаў на сацыяльна–значныя тавары, якія рэалізуюцца на тэрыторыі вобласці, яшчэ 30 кастрычніка мінулага года Мінаблвыканкомам таксама прынятае распараджэнне №861, якім вызначаныя гранічныя гандлёвыя надбаўкі на сацыяльна–значныя тавары.

## Праведзеныя праверкі паказалі

Праводзіцца работа па захаванні гэтых нормаў. Тым не менш, завышэнні цэнаў (тарыфаў) ёсць. Прыкладам, за 4 месяцы сектарам аддзела цэнаўтварэння Мінаблвыканкома праверана 95 прадпрыемстваў. З іх у 62 прадпрыемствах устаноўленыя парушэнні ў цэнаўтварэнні. Па выніках праверак спагнана ў бюджэт 4637 мільёнаў рублёў, прыцягнута да адміністрацыйнай адказнасці 85 чалавек.

Праверкі паказалі, што асноўным у завышэнні цэнаў з'яўляецца сабекошт прадукцыі. У многіх правераных прадпрыемствах няма нормаў расходу паліва і электраэнергіі, нарматыўнымі дакументамі па пытаннях цэнаўтварэння, асабліва, галіновымі, прадпрыемствы не забяспечаныя. Дзе–нідзе нормы расходу сыравіны і дапаможных матэрыялаў распрацаваныя, аднак не адпавядаюць фактычнаму расходу, – гэта значыць, яўна завышаныя, што прыводзіць да нерэальнай эканоміі.

Устаноўленыя выпадкі, калі ў планавых разліках прадугледжваецца спісанне дапаможных матэрыялаў, а фактычна не спісваецца. Многія прадпрыемствы пры атрыманні прадукцыі праз пасрэднікаў не патрабуюць указання належных рэквізітаў (завод–вытворца ці імпарцёр і цана) у выніку гэта прыводзіць да завышэння цэнаў. На жаль, ёсць прадпрыемствы, дзе адсутнічаюць эканамічныя разлікі, якія пацвярджалі б узровень прымяняемых цэнаў і іншае.

Знізілася адказнасць прадпрыемстваў за захаванне Асноўнага палажэння па складзе затрат, якія ўключаюцца ў сабекошт прадукцыі.

Пры праверцы ААТ "Швейная фірма "Юнона" выяўлена завышэнне нормаў расходу сыравіны і дапаможных матэрыялаў, сума ад завышэння цэнаў і штраф у суме 152,8 мільёна рублёў спагнаныя ў бюджэт.

Маладзечанскай фабрыкай музінструментаў пры фарміраванні цэнаў неабгрунтавана завышаны артыкул "агульнагаспадарчыя расходы" і артыкул "сыравіна і матэрыялы". Сума ад завышэння цэнаў і штраф 349,2 мільёна рублёй спагнаныя ў бюджэт.

Аналагічныя парушэнні выяўленыя і ў іншых правераных прадпрыемствах.

Праверкай Чысцінскага ВПЖКГ устаноўлена завышэнне тарыфаў па цеплаэнергіі ў студзені 1999 года ў суме 355 мільёнаў рублёў, прад'яўлена штрафных санкцый 355 мільёнаў рублёў. Прычынай завышэння з'явілася тое, што ўзгоднены тарыф з 15.I.1999, а прадпрыемствам неабгрунтавана прымянены з 1.I.1999 года.

*Заканчэнне будзе.*

# MEMENTO DE PATRIAM*

## Ксёндз Віктар Шутовіч

“Божа, чаму ж нам, беларусам, трэба цярпець столькі за сваё роднае слова, нават у пазнаванні Тваёй Боскай Праўды, ды ў малітве да Цябе?.. Усе ж народы роўныя перад Табою, як і мовы іхнія. Чаму ж тады мы мусім цярпець пераслед мовы нашай не толькі ў штодзённым жыцці, але і ў Святынях Тваіх, збудаваных нашымі ж рукамі, на Славу Тваю? – ды цярпець гэты пераслед не толькі ад недаверкаў, але і ад такіх жа хрысціян як мы...” – так пісаў у газеце “Бацькаўшчына”, якая выдавалася ў Мюнхене, знаны лідэр беларускай эміграцыі, доктар філасофіі Вінцэнт Жук-Грышкевіч у 1964 годзе.

Шмат гадоў прайшло з тае пары, але сітуацыя амаль не змянілася. Да сённяшняга дня ў большасці святыняў гучыць чужое небеларускае слова, як і раней знаходзяцца аргументы супраць яго. Як і дзесяткі гадоў таму, духоўныя пастыры адракаюцца ад свайго народа ў імя нейкіх найвышэйшых толькі ім вядомых ідэй і планаў. Як і раней, хрысціянская вера, Боскае Слова, служаць разменнай манетай у гульнях амаральных і палітычных. І іншы раз пачынае здавацца, што Бог абдзяліў нашу зямлю сапраўднымі, высокаахвярнымі і самаадданымі святарамі, тымі, хто б стараўся данесці Божую Праўду, Божае Слова да жыхароў нашай Бацькаўшчыны на іхняй роднай мове. Але, на вялікае шчасце, яны былі, тыя сапраўдныя пакутнікі за Бога і Беларусь, жыццё якіх часта напамінала крыжовую дарогу, па якой ішлі першыя хрысціянскія місіянеры. Адам Станкевіч і Алесь Коўш, Вінцэнт Гадлеўскі і Мікалай Лапіцкі, Антон Неманцэвіч і Дзекуць-Малей, Кастусь Стэповіч і Ян Пятроўскі, Аляксандр Астрамовіч і Леў Гарошка. Спіс гэты можна доўжыць. І ў ім не апошняе месца займае прозвішча айца Віктара Шутовіча, які паходзіў з той славутай вёскі Шутавічы, што на Смаргоншчыне.

Будучы святар нарадзіўся 27 кастрычніка 1890 года ў вялікай і працавітай сялянскай сям'і каталіцкага веравызнання. Хрысціянскія маральныя каштоўнасці былі тым найвялікшым скарбам, які шанаваўся і цаніўся ў сям'і. Бацькі былі пісьменныя, што імкнуліся перадаць і нашчадкам. Амаль усе іхнія дзеці атрымалі сярэднюю і нават вышэйшую адукацыю, некаторыя з іх навечна прапісалі свае імёны на скрыжалях беларускай гісторыі. Так, Янка Шутовіч стаўся даволі вядомым грамадскім і палітычным дзеячам, скончыў Віленскі універсітэт, быў рэдактарам вельмі папулярнага ў Заходняй Беларусі літаратурна-мастацкага і грамадска-палітычнага часопіса “Калосьсе”. Война́ц... 

Войцех, самы малодшы ў сям'і, у канцы 20-х гадоў належаў да Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры, праводзіў вялікую культурна-асветніцкую дзейнасць у родных мясцінах, арганізаваў тэатральную трупу, з якой аб'ездзіў усю Ашмяншчыну, Вілейшчыну, Маладзечаншчыну, выступаючы з беларускімі спектаклямі. Не засталіся ў баку ад нацыянальнай справы і сёстры. Марыля Шутовіч нейкі час была загадчыцай Беларускага прытулку пры Віленскай Беларускай гімназіі, а затым апякункай у ксяндза Адама Станкевіча. Эмця Шутовіч – настаўніца беларускіх школ у міжваеннай Польшчы. Яшчэ адна сястра – Ганна Шутовіч – актывістка беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, па адукацыі была бухгалтарам. Быў яшчэ адзін брат – Вінцук. Але звесткі пра яго, на вялікі жаль, вельмі скупыя. Вядома толькі, што працаваў на гаспадарцы, затым у Вільні пры Беларускім прытулку. Не засталіся ў баку ад беларускай дзейнасці і іхнія стрыечныя браты. Альфонс Шутовіч быў адным з актывістаў Беларускай хрысціянскай дэмакратыі (БХД), а з другой паловы 20-х гадоў працаваў у Беларускай друкарні імя Ф.Скарыны ў Вільні.

Але найбольшыя надзеі ў сям'і ўскладаліся на Віктара. Добры і ласкавы, набожны, ён яшчэ з дзяцінства вырашыў для сябе стаць святаром. У сям'і яго падтрымлівалі. Вучыўся спачатку ў Ашмянах, а затым паступіў у Віленскую духоўную семінарыю. Тут пазнаёміўся, а пазней і пасябраваў з многімі ў будучым вядомымі беларускімі святарамі і грамадскімі дзеячамі: Язэпам Рэшацем, Язэпам Германовічам, Адамам Станкевічам, Уладыславам Талочкам ды іншымі. У хуткім часе пры семінарыі быў створаны беларускі гурток, адчыненая бібліятэка, завязаны кантакт з рэдакцыяй газеты “Наша Ніва”. Менавіта ў гэты час Віктар Шутовіч зразумеў, што яго жыццёвая місія заключаецца ў верным служэнні Богу і свайму занядбанаму народу. І гэтаму прызванню застаўся верным назаўжды.

У 1913 Шутовіч скончыў вучобу, а 29 чэрвеня таго ж года быў высвенчаны на святара. Нейкі час працаваў вікарыем у Віленскай катэдры, а ў 1914 годзе паступіў у Петраградскую духоўную акадэмію, дзе скончыў два курсы. Па якой прычыне спыніў далейшую вучобу – невядома. Па адных крыніцах – гэта звязана з матэрыяльным становішчам, што цалкам зразумела, а па другіх – пасля рэвалюцыі 1917 года акадэмія была зачынена, і таму навучэнцы былі вымушаныя вярнуцца на радзіму. Вярнуўшыся на Беларусь, айцец Шутовіч быў накіраваны Віленскім біскупам Эдвардам Ропам на пасаду пробашча ў Барадзенічы Браслаўскага павету. Непадалёку адсюль праходзіла прыфрантавая паласа. Пра гэты перыяд жыцця айца Віктара вельмі добра ўспамінаў ксёндз Пётр Татарыновіч: “Тут ён разгарнуў адразу вельмі актыўную працу, уводзячы беларусізацыю ў касцёле, не толькі беларускія казані, але пацеры, песні і касцельныя запісы вяліся па-беларуску. Ён арганізаваў беларускія школы, пашыраў беларускія газеты і кніжкі, вучыў народ у святыні і па-за ёй пры ўсякіх нагодах любіць сваю мову і сваю культуру, змагацца за свабоду свайго народа”.

Мясцовы люд адразу палюбіў свайго маладога святара. Яго любілі як роднага бацьку, як сапраўднага пастара для “блудных авечак”. Ён раздзяляў са сваім народам боль і радасць, шчасце і смутак, надзею і расчараванне. Быў вельмі простым і непасрэдным у дачыненні з людзьмі, дбаў пра сваіх вернікаў, і тыя ішлі да яго з усімі сваімі клопатамі і спадзяваннямі.



*Кс. Віктар Шутовіч*

З вялікімі цяжкасцямі ўдалося перажыць айцу Віктару халодныя і галодныя 1918-19 гады. Улады ў той час мяняліся настолькі часта, што, кладучыся спаць пры адной, назаўтра раніцай можна было прачнуцца пры другой. І ўсе ставіліся да працы беларускага святара даволі негатыўна, а то і варожа. Адны бачылі ў яго дзейнасці “камуністычную прапаганду”, а другія – “ксяндзоўска-папоўскую атруту”. Але ён не наракаў і не плакаўся, ён проста сумленна выконваў ускладзеную на яго Богам вялікую і пачэсную місію. Калі ў 1919 годзе на Беларусь прыйшла Чырвоная армія, то амаль усе каталіцкія святары суседніх да Барадзенічаў парафіяў паўцякалі. Айцец Віктар і далей праводзіў пастырскую работу ў парафіях, якія засталіся без сваіх пробашчаў. У той час яго голас можна было пачуць у Новым Пагосце і Шаркаўшчыне, Германовічах і Друі, Ёдах і Далёкіх, Іказні ды іншых мясцінах.

У 1921 годзе па Рыжскай дамове Беларусь была падзеленая на дзве часткі. Адносіны да гэтай падзеі вельмі трапна выказаў малады паэт з Усходняй Беларусі Алесь Дудар у сваім вершы “Пасеклі наш край папалам...”:

Распаўся б камень ад жальбы,
Калі б ён знаў, як торг над намі
Вядуць маскоўскія рабы
З вялікапольскімі панамі.

Польскія ўлады адразу ж узяліся за айца Віктара Шутовіча. У чым толькі яго не абвінавачвалі: і ў беларускім шавінізме, і што “польскіх дзяцей не прымае да споведзі”, і ў камуністычнай агітацыі. Пад націскам уладаў Віленскі біскуп Юры Матулевіч вымушаны быў стварыць камісію, якая пачала займацца дзейнасцю а. Шутовіча. 29 мая 1921 года ў Барадзенічы прыехала група людзей, якая пачала разбірацца ў сутнасці справы. Безумоўна, чакаць ад гэтых людзей станоўчага вырашэння пытання не даводзілася, бо ў большасці сваёй гэта былі заўзятыя беларусафобы і шавіністы. З імі прыехаў і ксёндз Асціловіч з Мёраў. Ён выказаў жаданне гаварыць казані ў касцёле папольску, але парафіяне не хацелі. За гэта ксёндз Асціловіч “пачаў казаць, што Бог не разумее беларускай мовы, а Папа Рымскі будзе абурацца, калі ў касцёле будзе гучаць беларуская, а не польская мова”. Гэта не дапамагло. Сяляне як адзін, за выняткам некалькіх шляхцюкоў і іх халуёў, стаялі за родную мову і свайго святара. І на гэты раз перамаглі.

Каля дзесяці гадоў працягвалася плённая святарская праца айца Віктара Шутовіча сярод беларускага насельніцтва Барадзеніцкай парафіі. Не звяртаючы ўвагі на пераслед, яўны шантаж, запалохванні, нёс а. Віктар святло праўды і веры пад саламяныя стрэхі сваіх пакрыўджаных і прыгнечаных землякоў. І толькі дзякуючы заступніцтву і прыхільнасці Віленскага біскупа, летувіса па нацыянальнасці, айца Юрыя Матулевіча (Юргіса Матулайціса), яму ўдавалася ўтрымацца на гэтай пасадзе. Але ў 1927 годзе а. Матулевіча замяніў яры вораг усяго беларускага Рамуальд Ялбжыкоўскі. Сваім загадам ад 12 студзеня таго ж года Ялбжыкоўскі высылае а. Віктара ў Трысцяны, на самае польска-беларускае памежжа, дзе моўная і палітычная сітуацыя была іншай. Жыхары гэтай парафіі, хоць і размаўлялі на мясцовай беларускай гаворцы, тым не менш, мелі нізкую нацыянальную самасвядомасць і, “дзякуючы” польскім ксяндзам, атаясамлівалі сваё веравызнанне з нацыянальнасцю. І тым не менш, а. Шутовіч у хаўрусе з даўнім сябрам, добрым беларускім патрыётам а. Язэпам Рэшацем (парафія якога знаходзілася паблізу) з самага пачатку разгарнуў шырокую беларускую дзейнасць. Павольна, але няўхільна ўводзіў у святыню набажэнства на беларускай мове, гаварыў хрысціянска-патрыятычныя казані. Спрабаваў адчыніць беларускую школу, закладаў моцны грунт беларускай нацыянальнай самасвядомасці. Але і ворагі не драмалі...

Недзе ў канцы 1928 года а. Віктар зразумеў, што жыць і працаваць яму спакойна не дадуць і таму рашыўся на адчайны крок, а менавіта, - выезд за мяжу. Напісаў ліст ксяндзу Яну Тарасевічу, вядомаму беларускаму грамадскаму дзеячу, які ў сілу такіх самых палітычных варункаў вымушаны быў жыць у горадзе Гардфордзе (ЗША), з просьбай знайсці сталы прытулак і, па-магчымасці, адпаведную працу. Станоўчы адказ прыйшоў праз некалькі месяцаў.

Жыццё ў Амерыцы не было лёгкім для ксяндза Шутовіча. У сэнсе нацыянальным. Хоць і меў непасрэдны кантакт і добрыя стасункі з беларускай эміграцыяй, але душэўнага і матэрыяльнага камфорту не адчуваў. Спрэчкі, якія існавалі сярод грамадскіх дзеячоў на Бацькаўшчыне, пераносіліся сюды, а тут яшчэ больш абвастраліся і рабіліся хранічнымі. Адсутнасць багатых і ўплывовых людзей сярод самой эміграцыі, нізкая нацыянальная самасвядомасць, брак уласна беларускіх цэркваў і касцёлаў (на той час) выклікалі ў сэрцы трывогу і непрыхаваны боль. Але з усіх сіл трымаўся. Жыць прыйшлося ў амерыканскім каталіцкім кляштары айцоў Салатынаў. Ратаваўся працай. Пісаў артыкулы на розныя тэмы, якія потым дасылаў у адзіную беларускую газету “Беларуская трыбуна”.

Пражыўшы тры гады ў ЗША а. Віктар вяртаецца на Радзіму.

У 1932 годзе а. Шутовіч прыехаў у Вільню і адразу быў прызначаны вікарыем у Харошчы. Час быў вельмі неспрыяльны. Польскія ўлады з усіх сіл стараліся задушыць усялякія праявы беларушчыны. Забараняліся беларускія газеты і часопісы любога палітычнага накірунку, грамадскія арганізацыі, культурна-асветныя таварыствы. Вымушаны быў падладжвацца пад патрабаванні часу і айцец Віктар. Хоць мовай штодзённага ўжытку ў яго заставалася беларуская, але ў касцельнай, школьнай і катэхізацыйнай працы ён павінен быў карыстацца польскай мовай. Такія жорсткія і адназначныя вымогі былі да а. Шутовіча з боку вышэйшага каталіцкага духавенства.

За ім сачылі ўвесь час. Нават ксяндзоўская гаспадыня выконвала ролю паліцэйскага агента. Сачылі ў школе і на вуліцы, у пастарунку і краме, касцёле і нават у плябані. Рабілі і іншыя дробныя паскудствы. Насыпалі шкло ў рэчку, дзе ксёндз збіраўся купацца, брудзілі ваду, псавалі сутану, прывязвалі сабак ля плоту, каб не давалі спаць і г. д. І гэта ў XX стагоддзе! І за што? Толькі за тое, што а. Шутовіч не выракся свайго, трымаўся роднай, Богам дадзенай мовы, заставаўся беларусам. Але ён не скарыўся! У адным з лістоў ён пісаў: “Праследуюць мяне, але з дарогі маёй не ўступлю і ў жыцці не зламаюся. Перажыў я бальшавікоў і расейскую рэвалюцыю, перайшоў я амерыканскія школы жыцця, дык перанясу я і гэты здзек і паніжэнне чалавечай годнасці. А мне цярпець гэта не цяжка, бо я люблю свой народ і сваю Бацькаўшчыну”.

Акрамя святарскай службы, шмат пісаў у розныя перыядычныя выданні, перапісваўся з сябрамі. У другой палове 30-х гадоў пачаў актыўна займацца беларускім фальклорам. Запісваў абрады, казкі, прыказкі, прымаўкі. І “няма такой беларускай песні, якой бы я не запісаў”, - прызнаваўся ён. Шмат чытаў. Ведаючы каля дзесяці моваў, стараўся выпісваць патрэбныя выданні з-за мяжы. Усё гэта давала стымул для жыцця і веры ў свой народ. Неяк непрыкметна нават для сябе самога пачаў ўсё больш сур'ёзна займацца літаратурнай дзейнасцю. Асабліва цягнула да драматургіі. Напісаў 5-актовую драму, прысвечаную 950-годдзю хрысціянства на Беларусі, якая складалася з 15 тысяч слоў і займала 70 лістоў машынапісу. Збіраўся напісаць гістарычную п'есу пра Вітаўта Вялікага, вясёлую, жыццярадасную народную камедыю, працягваў пісаць артыкулы аб святкаванні Калядаў, Купалля ды іншых народных святаў.

У чэрвені 1938 года беларускае грамадства адзначыла 25-ыя ўгодкі святарскай дзейнасці айца Віктара Шутовіча, што супалі з такімі ж угодкамі ксяндза Язэпа Германовіча. Святкаванні праходзілі найперш у Вільні і былі вельмі ўрачыстыя. Прайшла вялікая беларуская пілігрымка ў Віленскай Кальварыі, у якой прынялі ўдзел абодва юбіляры, пасля чаго адбылася вялікая, добра падрыхтаваная імпрэза. Было сказана шмат добрых чалавечых слоў пра ахвярную дзейнасць гэтых двух руплівцаў на ніве служэння Богу і свайму народу. Асабіста а. Віктару найбольш спадабалася “што беларусы добра гаварылі пацеры і надта добра пялі”. Бо менавіта ў гэтым ён бачыў плён сваёй працы, свайго сэрца. На ўрачыстасці прысутнічаў і Максім Танк, тады ўзыходзячая зорка Заходняй Беларусі. Падобнае мерапрыемства адбылося і ў Харошчыцкай парафіі. Прыехала каля дваццаці беларускіх ксяндзоў. Касцёл быў прыбраны вельмі ўрачыста і святочна. Прыйшло шмат беларускіх сялян з навакольных вёсак, якія ад душы віншавалі свайго святара і настаўніка.

Падыходзілі да канца праклятыя трыццатыя гады. Палякі забаранялі апошнія беларускія арганізацыі. Беларускія ксяндзы Рэшаць і Германовіч былі вымушаныя пакінуць Бацькаўшчыну. Былі высланыя беларускія манахі з Друі. Многія беларускія дзеячы былі арыштаваныя і знаходзіліся ў зняволенні.

У свеце пахла другой сусветнай вайной. І яна пачалася. У верасні 1939 года на землі Заходняй Беларусі прыйшлі першыя Саветы, а праз два гады – немцы. Айцец Шутовіч усю нямецкую акупацыю пражыў ў Харошчыцкай парафіі, дзе займаўся выключна рэлігійнай дзейнасцю. У палітыку не лез, разумеючы, што дабра ад немцаў не дачакацца. Перад самым нямецкім прыходам у Вільні выдаў “Маёвую чытанку” – кніжачку для касцельнага набажэнства. Яна выйшла ў 1940 годзе ў Беларускім каталіцкім выдавецтве. Лёс усяго астатняга, напісанага Шутовічам, невядомы. Хутчэй за ўсё, яно было знішчана ці згарэла на крывавай дарозе беларускай Галгофы. У чэрвені 1944 года ён прыехаў у Мінск, дзе нейкі час служыў святаром у Катэдральным саборы. Пра гэты перыяд захаваліся цікавыя ўспаміны Кузьмы Чорнага, змешчаныя ў ягоным “Дзённіку”: “За гэтыя дні бачыўся з Р. Шырмам. Ад яго пачуў тое, што чуў ад П. Пестрака і М. Танка. Каталіцкае духавенства, дзе якое было раней і якое дзе цяпер з'явілася, стала агентурай пана Сасноўскага, паланізуюць сваіх парафіян і тлумачаць, што няма ніякай Беларусі, а ёсць Польшча. Усё ідзе ад віленскага біскупа Ялбжыкоўскага. Аб гэтым дакладна ведае і тужыць беларускі патрыёт, мінскі ксёндз Шутовіч”.

Але плённая праца яго працягвалася нядоўга. Перад Калядамі 1945 года ён быў арыштаваны і вярнуўся на Беларусь толькі пасля смерці Сталіна. Па словах айца Уладыслава Чарняўскага, ксёндз Шутовіч каля месяца па вызваленні пражыў у мястэчку Вішнева Валожынскага раёна. Ён быў настолькі спаралізаваны страхам, што нават баяўся служыць Святую Імшу ў касцёле. Затым жыў у Мінску, а з 1956 года – у Барысаве, дзе быў святаром мясцовага цвінтарнага касцёла. Душэўную самоту раздзяляў са сваім арганістам, знаным заходнебеларускім дзеячам Адольфам Клімовічам, які, вярнуўшыся з ГУЛАГу і не могучы знайсці работу, працаваў у тым жа каталіцкім храме. Апошнія гады правёў у адзіноце, забыты сябрамі і знаёмымі. Памёр а. Віктар Шутовіч ноччу 1 сакавіка 1960 года і пахаваны на старых Барысаўскіх могілках.

Так склалася, што на Беларусі такія ксяндзы, як Шутовіч, выконвалі такую ж ролю, як першыя Хрыстовыя Апосталы на пачатку хрысціянскай веры. З цяжкасцю, у вельмі неспрыяльных умовах, часта рызыкуючы жыццём, яны закладвалі падмуркі новага каталіцкага касцёла, дзе годна і ўтульна пачувала б сябе беларуская мова і беларускі народ. Дык памолімся ж за іх, за іхнюю Працу і за іхнюю Веру.

***Міхась КАЗЛОЎСКІ.***

*Memento de Patriam (лац.) – Памятай пра Бацькаўшчыну.

*Вышэйшая ліга*

# Ё–хо–хо, і бутэлька рому...

## Дынама (Брэст) – Маладзечна 7:0

30.06, галоўны арбітр Браніслаў Ясінскі (Мінск)

11 Яўсеенка, 4 С. Кабельскі (кап.) (Мурашка, 54), 9 Дзербан (Бычкоўскі, 54), 10 Молаш, 8 Шамшорык, 6 Дзіковіч, 7 Паўлавец (Новаш, 64), 2 Рагуновіч, 5 Плют, 3 Вайтовіч, 1 Пясецкі

**Галы:** Страхановіч (10, 51), Васілюк (21), Саўчук (42), Разін (47, 60), Кавальчук (60).

**Запасны**: Жукоўскі.

На 54-й хвіліне Шамшорык не рэалізаваў **пенальці**.

**Папярэджанне**: Дзіковіч.

**Андрэй Сянюк** (газета "Брэсцкі кур'ер"):

–Госці правялі матч вельмі невыразна. Адчувалася, што на варотах гуляе рэзервовы галкіпер, які занадта нерваваўся. Яго няўзгодненыя з абаронцамі дзеянні прывялі да першага ўзяцця варот. Другі мяч забіваўся пасля розыгрышу свабоднага менавіта ў той кут, дзе знаходзіўся **Максім Пясецкі**. Брастаўчане былі аб'ектына мацней, дзейнічалі на больш высокіх хуткасцях, што называецца, "парвалі" саперніка. Маладзечанцам не заставалася нічога іншага, як злаваць адзін на аднаго. І сварыліся, і проста з дакорам глядзелі на партнёраў. Маглі забіваць, але надзейна адстаяў галкіпер гаспадароў **Дзмітрый Вірко**. Ён парыраваў пенальці ад **Тараса Шамшорыка**, а потым не даў дабіць мяч у свае вароты. Пры ліку 0:7 госці стварылі некалькі добрых момантаў, аднак Вірко быў непрыступны.

Пасля матча **Барыс Лазарчык** адзначыў, што ў Брэсце вельмі сур'ёзна ставяцца да футбола, ёсць патрэбная матэрыяльная база, колькі год практычна не мяняецца склад футбалістаў і трэнераў, у адрозненне ад "Маладзечна", якое толькі распачынае падобны шлях. Ці будзе шлях працягнуты— цяпер гэта пад пытаннем.

**Уладзімір Галубко** (трэнер "Маладзечна"):

– Пасля мінулага паражэння 0:5 ніякіх зменаў у клубе не адбылося. А мяняць нешта трэба. Як у сэнсе складу, так і стаўлення да каманды з боку горада. На маю думку, гэтымі днямі пытанне стаіць так: "Быць альбо не быць".

**Юрый Лукін** (дырэктар клуба):

– Змены будуць. Збярэцца кіраўніцтва, некага знімуць з работы. Можа трэнера, можа дырэктара, можа бухгалтара. Аднак, на мой погляд, проста так 0:7 не прайграюць. Пасля 0:5, 0:3 і іншых паражэнняў. Нехта спецыяльна распальвае сітуацыю. І ў гэтым абавязкова трэба разабрацца. На старонках вашай газеты з'яўляліся выказванні пра азербайджанцаў на стадыёне, пра дрэннага дырэктара Лукіна. Лічу, што ўсё ўзаемазвязана.

**Сяргей Вайтовіч** (абаронца "Маладзечна"):

– Гэта жах. Такое ўражанне, што ўсе адвярнуліся ад каманды. Відаць, гарадскім уладам яна проста не патрэбная. Футбалісты не атрымалі прэміяльных за набраныя раней ачкі. Зарплату плацяць, аднак некаторым гульцам замест 20 мільёнаў, што было запісана ў кантракце, толькі па 10-12. Гэта ж смешныя грошы. Наколькі ведаю, дае іх бізнесмен **Леанід Стагановіч**, які адзін імкнецца ўтрымаць каманду на плыву. Тры-чатыры чалавека пакінуць "Маладзечна" пасля першага круга, калі скончыцца тэрмін кантрактаў. І ўжо цяпер, напэўна, проста дагульваюць матчы без усялякага жадання. Канфлікту з трэнерам няма. Мы разумеем, што ён ішоў у "Маладзечна" пад іншыя ўмовы.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

*Кубак краіны*

# Мінскае "Дынама" у Чысці.

## Верагодная рэальнасць канца 90-х

18 ліпеня пройдуць матчы 1/16 фінала чарговага розыгрышу Кубка Беларусі. У іх сустрэнуцца клубы вышэйшай і першай ліг на полі малодшых па рангу. Тры каманды першай лігі гуляць не будуць, і іх заменяць лепшыя прадстаўнікі другой лігі – з ліку тых, што не з'яўляюцца фарм-клубамі.

Натуральна, права выступіць у кубкавым розыгрышы атрымала чысцінская "Забудова". Жараб'ёўка напярэдадзе (6 ліпеня), але ўжо можна парадавацца, што ў нейкі вялікі, сапраўднага еўрапейскага выгляду пасёлак на афіцыйны матч зможа прыехаць нехта з цяперашніх лідэраў беларускага футбола, альбо, напрыклад, каманда з такім гучным іменем, як мінскае "Дынама". У сярэдзіне 80-х нікому б не прыйшло ў галаву нават марыць пра падобнае, і яшчэ чатыры гады таму для гэтага не было аніякіх падставаў. Цяпер жа відаць, якую карысную і важную спартыўную справу робяць на Маладзечаншчыне.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

*Спартакіяда*

# Поспех, паўтораны рангам вышэй

СМАРГОНЬ. Летась каманда Смаргоншчыны ўдзельнічала ў X абласной рабочай Спартакіядзе ў другой групе сярод раёнаў і заняла 1 месца. Сёлета раён перавялі ў групу мацнейшых, дзе выступаюць сем каманд буйнейшых гарадоў і раёнаў Гродзеншчыны. Змагацца з імі ды яшчэ па 20 відах спорту вельмі і вельмі складана для нас.

З першага дня 1999-га года пачаліся падрыхтоўка і ўдзел у XI Спартакіядзе. 21-23 мая ў Гродне на цэнтральнай абласной арэне – стадыёне "Нёман" праходзіла фінальная частка спаборніцтваў. У склад смаргонскай дэлегацыі ўваходзілі каля 80 удзельнікаў па 13 відах спорту. Неабходныя грашовыя сродкі для падрыхтоўкі і паспяховага выступлення адшукаў раённы выканаўчы камітэт. Дэлегацыя апраўдала надзеі – заняла пачэснае 2 месца пры аднолькавай колькасці ачкоў з пераможцамі (Ленінскі раён Гродна), саступіўшы ім толькі з-за меншай колькасці першых месцаў па відах спорту.

**Ад рэдакцыі.** У выніковай табліцы Спартакіяды 5 абавязковых відаў (плаванне, крос, зімовае і летняе мнагаборства "Здароўе", сямейныя каманды) і яшчэ 14, з якіх адбіраецца 7 лепшых. Па суме занятых месцаў смаргонцы і "ленінцы" набралі 43 ачкі. Далей размесціліся Кастрычніцкі раён Гродна (45), Слонім (46), Ліда (63), Ваўкавыск (75), Навагрудак (98).

Найбольш удала (1 агульнакаманднае месца) выступілі ў лёгкаатлетычным кросе (лепшыя: **Алена Світа, Саіда Тагіева, Віктар Дунай, Уладзімір Чабанаў, Уладзімір Чырыца**, трэнер **Станіслаў Барташэвіч**) і сярод сямейных каманд (сем'і **Плюто, Здановічаў, Шашовых**, трэнер **Аляксандр Плюто**). 2 месца ў плаванні (Уладзімір Чабанаў, **Марына Пушча, Юрый Ціханчук**) і армрэслінгу (**Уладзімір Шыкала**, трэнер **Станіслаў Красоўскі**). Высокія вынікі ў зімовым (3 месца) і летнім (4 месца) мнагаборстве. Асабліва вызначыліся Уладзімір Чабанаў, Уладзімір Чырыца, **Кацярына Мустафіна, Кацярына Пыркова**. Рыхтаваў каманду Станіслаў Барташэвіч. У гульнявых відах парадавалі стрытбалісткі (3 месца, трэнер **Валерый Юрчанка**) і міні-футбалісты (4 месца, трэнер **Аляксандр Лобан**). Далі добрыя заліковыя ачкі **Генадзь Тамашоў** (гіравы спорт), **Сяргей Трызна** (настольны тэніс), **Наталля Гарбаценка** (шахматы), Юрый Ціханчук (більярд).

Сярод працоўных калектываў, прадстаўнікі якіх увайшлі ў зборную раёна, многія заводы, сельскія гаспадаркі, камерцыйныя фірмы. Найбольш удзельнікаў прадаставіла ўпраўленне адукацыі.

Адзначу недапрацоўкі ў такіх відах, як перацягванне каната і жаночы валейбол. Сур'ёзней трэба ставіцца да арганізацыйных момантаў, напрыклад, пастраенні каманды пры адкрыцці і закрыцці спаборніцтваў.

Віншуем усіх удзельнікаў і трэнераў з вельмі паспяховым выступленнем!

*Сяргей НОВІК,*
*намеснік загадчыка аддзела па ФКСіТ пры Смаргонскім райвыканкоме.*

*Нашы інтэрв'ю*

# Танцор Пашка

***У дамашнім матчы ФК "Маладзечна" з мінскім "Дынама" адзіны гол у гаспадароў правёў Павел Плют. Калі ласка, знаёмцеся.***



*Павел Плют пасля першага свайго гола зрабіў надта вялікі перапынак.*

ФОТА ЮЛІІ ВАНСЛАЎ.

– Нарадзіўся я 22 студзеня 1981 года ў Мінску. Пачынаў гуляць у "Алімпіі". Першы трэнер – Барыс Лазарчык. Я – кандыдат у юнацкую зборную Беларусі (И–18).

– **Ці доўга ты разважаў перад тым, як пачаць выступаць за ФК "Маладзечна"?**

– Дастаткова доўга...

– **Ці застанецца клуб у вышэйшай лізе?**

– Натуральна, застанецца! Перад камандай стаіць такая мэта.

– **Якія задачы ты паставіў перад сабой у гэтым сезоне?**

– Нічога не планаваў.

– **Каму ты прысвяціў гол, забіты мінскім дынамаўцам?**

– Нават і не думаў пра гэта... Наогул, гэта быў мой першы афіцыйны мяч.

– **Твой кумір?**

– Няма такога.

– **Як ты вучыўся ў школе?**

– Навошта гэта? Лепш напішы, што вучуся ў АФВіС.

– **Якая табе падабаецца музыка?**

– Музычных прыхільнасцей не маю.

– **Якія ў цябе ёсць захапленні, акрамя футбола?**

– Добра танцую.

*Юлія ВАНСЛАЎ.*

*"Таталізатар"*

# Усяго 3 правільныя прагнозы з 62

У шостым раундзе атрыманы 21 купон. Зыходы сустрэч у Магілёве і Маладзечне не адгаданыя ні разу. Лік мінскага матча ўдалося спрагназаваць толькі тром удзельнікам, маладзечанцам **Уладзіміру Лазучонку** (ДТ-С 1:1, М-ТК 2:1), **Валерыю Грабоўскаму** (ДТ-С 1:0, М-ТК 1:0) і смаргонцу **Аляксандру Шчарбацэвічу** (ДТ-С 0:0, М-ТК 1:0).

Як відаць, Валерый Грабоўскі дакладна вылучыў мацнейшага ў магілёўскай баталіі. Яго і называем маральным пераможцам.

*«Таталізатар»*

| № | Матчы (6-7 ліпеня) | Лік-прагноз |
|---|---|---|
| 1. | Дынама (Мн) – БАТЭ | |
| 2. | Днепр-Трансмаш – Шахцёр | |
| 3. | Маладзечна – Белшына | |

**Прозвішча** ______________ **Адрас** ______________
**Імя** ______________ **Тэлефон** ______________

**Апошняя дата адпраўкі купона 7–га раунда – аўторак, 6 ліпеня.**

1. +1=0-1 2-3. 2:0 (Мінск), 0:3 (Бар.). Калі сталічныя дынамаўцы ў глыбіні душы лічаць сябе нейкімі асаблівымі, дык гэта трэба даказваць у падобных матчах. Ну, а для лідэра чэмпіянату ёсць добрая магчымасць узяць дзяжурныя тры ачкі.

2. +7=5-2 20-8. 4:0 (Маг.), 3:1 (Сал.). Магіляўчане набралі добры ход. Салігорцы патэнцыяльна могуць даць ім бой. Праўда, на выездзе гэта зрабіць будзе цяжка.

3. Падрабязнасці ў перадматчавым анонсе.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

*Другая ліга*

# «Рэгіянальны кубак» УЕФА і Аляксандр Чарнель

## Забудова - РВАР (Мінск) 1:0 (1:0)

**Гол:** Д. Ваўчок (20).

**Склад**: Мялюк, Нядзелька (Д. Мятліцкі, 80), Івашкевіч, Гулевіч, Карыцька, Д. Ваўчок, Рыгаровіч (Татун, 25), Касцюкевіч (кап.), Дараховіч, Макрыцкі (Відрук, 88), М. Мятліцкі (Чарнель, 46).

Чысцінцы дамагліся перамогі за кошт сваёй традыцыйнай гульні, галоўнае ў якой – граматныя, наладжаныя дзеянні пры абароне, недапушчэнне якіх бы то ні было "абрэзак", што прыводзяць да контратак саперніка.

Гол забілі даволі нечакана. За хвілін колькі да гэтага мінчане парушалі правілы ў барацьбе з **Віталем Макрыцкім**, але ён устаяў на нагах, чым выклікаў неадабрэнне трэнераў, бо атака працягу не мела. У наступнай гульнявой сітуацыі на правым фланзе паўабароны Віталь добрасумленна ўпаў, але спрактыкаваны арбітр **Віктар Мацюшаў** гульню не спыніў. На полі ўзнікла імгненная разгубленасць, якую выкарысталі чысцінцы. Мяч застаўся ў іх, паследаваў хуткі перавод у два дотыкі на левы край атакі. Там у штрафную ўвайшоў **Дзмітрый Ваўчок** і моцна стрэліў у блізкі кут. "Снарад" прабіў рукі галкіпера, а "Забудова" павяла ў ліку. У 2–м тайме двойчы мог забіваць Макрыцкі пасля прастрэлаў злева. Першы раз прабіў з ходу і трапіў у варатара, другі раз (сітуацыю стварыў **Аляксандр Чарнель**) стаў апрацоўваць мяч, але няўдала.

Пасля матча галоўны трэнер **Аляксандр Гармаза** пракаменціраваў гульню адным словам:

– Вымучылі.

Яшчэ паскардзіўся на вузкае поле, на якім цяжка правесці размашыстую прыгожую атаку. Дарэчы, ужо ёсць праект тэрміновага пашырэння "паляны".

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

## "Смаргонь" – "Трактар" 2:3

**Галы:** Апяцёнак (44), Чарнуха (80), Шпакоўскі (8), Ціхаsuccessенка (30), Шыянаў (69).

**Склад:** Канапелька, Васілеўскі, Шагойка, Макей, Юркевіч (кап.), Красоўскі (Курак, 56), Дукса (Жабінскі, 75), Якубіцкі (Карабінскі, 52), Чарнуха, Апяцёнак (Недавес, 74), Відук.

«Трактар», апраўдваючы сваю назву, таптаў чужую палову поля і хутка на трыбунах узніклі дыскусіі пра тое, колькі сёння прапусцяць гаспадары: некаторыя "пракоі" з таямнічым выглядам згадвалі лічбу "5".

Нельга не адзначыць, што самай прыкметнай фігурай на полі быў арбітр. Часта трэлі ягонага свістка гучалі абсалютна не па справе, што нервавала і футбалістаў, і балельшчыкаў.

*Юрый КАРПІЦКІ.*

## Лакаматыў (Віцебск) - Забудова 1:1 (1:1)

**Галы:** (18-пен.); Татун (35).

**Склад:** Анохін, Нядзелька (Д. Мятліцкі, 63), Івашкевіч, Гулевіч, Карыцька, Д. Ваўчок, Татун (Лявончык, 76), Касцюкевіч (кап.), Дараховіч, Макрыцкі, М. Мятліцкі (В. Ваўчок, 46).

Да пенальці ў вароты чысцінцаў прывялі няўзгодненыя дзеянні **Дзмітрыя Касцюкевіча** і **Алега Гулевіча**. Забіты гол – вынік індывідуальнай гульні **Мікалая Татуна**. Ён злавіў галкіпера на супрацьходзе: змяшчаўся ўздоўж штрафной на правы край, а прабіў у левы кут.

Як расказаў **Аляксандр Гармаза**, па малюнку гульні і самааддачы футбалістаў гэта быў, бадай, лепшы матч "Забудовы", аднак рэалізацыя галявых момантаў аказалася проста жудаснай. Да перапынку дзве выдатныя сітуацыі меў **Дзмітрый Нядзелька**. У другім тайме свае шанцы загубілі **Віталь Макрыцкі** і **Сяргей Дараховіч** (двойчы).

У наступным туры чысцінцы не ўдзельнічаюць, а 7 ліпеня, магчыма, правядуць прапушчаны матч у Нясвіжы.

Дарэчы, пра **Аляксандра Чарнеля**. З гэтага года УЕФА праводзіць "Рэгіянальны кубак" для аматарскіх каманд. Беларусь тут прадстаўляе "Буравеснік" з Мінскай вобласці, утвораны на базе каманды АФВіС-РШВСМ, якую крыху ўзмацнілі іншыя футбалісты, у тым ліку, і Чарнель. У групавых турнірах прайшлі матчы папярэдняга этапа. Нашы змагаліся на Украіне з гаспадарамі, малдаванамі і армянамі. Задачу вырашылі – у наступны этап прайшлі. Адзін з галоў на рахунку нашага земляка.

## Змена-БАТЭ (Мінск) - Смаргонь 0:0

**Склад**: Канапелька, Васілеўскі, Навіцкі, Макей, Юркевіч (кап.), Шпілеўскі (Недавес, 80), Дукса (Красоўскі, 46), Якубіцкі, Шагойка (Карабінскі, 62), Курак (Цярэшчанка, 54), Відук.

Трэнер смаргонцаў **Андрэй Майсейчанка** лічыць, што лік па гульні. Яна была роўная, са шматлікімі вострымі сітуацыямі. Так, на 5–й хвіліне **Віталь Відук** прабіў у штангу варот саперніка. У адным з эпізодаў **Сяргей Якубіцкі** няўдала зрэзаў мяч у сваёй штрафной, але **Андрэй Канапелька** выратаваў каманду. Наогул, галкіпер правёў сустрэчу вельмі надзейна.

Смаргонцы ўзмацнілі свае фарм-клубаўскія стасункі з жодзінскім "Тарпеда". У гэтым матчы бралі ўдзел **Дзмітрый Навіцкі** і **Аляксей Шпілеўскі** з каманды-маткі.

Вынікі 9–га і 10–га тураў. Лакаматыў-Верас 3:1, Будаўнік-Верас 1:3, Свіслач-Дах-2-Бярэзіна 1:1, Днепр-2-Азяркі 1:3. Верас-Днепр-2 1:1, Азяркі-Свіслач-Дах-2 2:0, Трактар-Будаўнік 1:0.

| | |
|---|---|
| 1. Азяркі (+1) | 22 |
| 2. Трактар | 20 |
| 3. **Забудова** | **20** |
| 4. Лакаматыў | 15 |
| 5. **Смаргонь** | **15** |
| 6. РВАР (-1) | 13 |
| 7. Змена-БАТЭ (-1) | 12 |
| 8. АФВіС-РШВСМ (-1) | 10 |
| 9. Верас (-1) | 10 |
| 10. Будаўнік | 8 |
| 11. Бярэзіна | 4 |
| 12. Днепр-2 | 4 |
| 13. Свіслач-Дах-2 | 4 |

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

